# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ - ВІЛЬНЯ - БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 6 (62) 11 - 17 лютага 1994 г. Кошт 150 рублёў

## ЗВАРОТ РАДЫ СТРАЙКАВЫХ КАМІТЭТАЎ ДА НАРОДУ БЕЛАРУСІ

Палітычны страйк, да якога мы Вас заклікаем - вымушаная мера на адказ на дзеяньні ўрада Кебіча й Вярхоўнага Савета.

Заканадаўчая й выканаўчая ўлада пра[illegible]тычна зьлілася ў адзіную структуру, ў адзіную ўладу. Стрыжнем палітыкі гэтай улады зьяўляецца прыхватызацыя, гандаль нацыянальнымі інтарэсамі й незалежнасьцю. «Галоўны барацьбіт са злачыннасьцю» атрымаў чарговае павышэньне й стаў галовай дзяржавы.

Між тым, міністры, якія спрабавалі весьці барацьбу з карупцыянерамі, накіраваныя ў адстаўку. У гэтай сытуацыі мы ня можам заставацца назіральнікамі. Трэба спыніць міністраўдрапежнікаў і Вярхоўны Савет! Гэтаму могуць паспрыяць нашы сумесныя актыўныя дзеяньні.

Мы ня маем іншага мэтаду барацьбы, як пакінуць свае працоўныя месцы й не пачынаць працу да таго часу, пакуль Савет Міністраў і Кебіч ня будуць адхілены ад улады.

Заклікаем усіх сумленных людзей пачаць бязтэрміновы палітычны страйк з 15 лютага 1994 года.

Мы таксама запрашаем усіх часова непрацуючых прыйсьці ў гэты дзень на цэнтральныя плошчы Беларусі, а ў Менску - на плошчу Незалежнасьці.

**Усе на барацьбу з хунтай карупцыянераў!**

Страйкавы фонд «Салідарнасьць» р/р N 700139 у АКБ «Дукат», г.Менск, код 767.

**Рада страйкавых камітэтаў Беларусі.**

## ЗАЯВА АПАЗЫЦЫІ БНФ АБ ПАЛІТЫЧНЫМ МОМАНЬЦЕ

Нягледзячы на прынцыповую эканамічную немагчымасьць аб'яднаньня грашовых сыстэмаў Рэспублікі Беларусь і Расейскай Фэдэрацыі без страты незалежнасьці й дзяржаўнасьці Беларусі прыкладаецца шмат намаганьняў як з боку расейскага Ўраду Чарнамырдзіна, так і з боку беларускага пракамуністычнага ўраду Кебіча, каб палітычнымі й адміністрацыйнымі рашэньнямі ажыцьцявіць фактычную ліквідацыю нашай дзяржавы. Такая змова й такія дзеяньні, як бы іх не камуфлявалі, зьяўляюцца антыдзяржаўнай дзейнасьцю й падлягаюць адказнасьці.

Так званае аб'яднаньне грашовых сыстэмаў, а на самой справе ўключэньне Беларусі ў грашовую сыстэму Расеі, будзе абазначаць ня што іншае, як разабраеньне беларускай эканомікі й беларускай дзяржавы перад больш магутнымі расейскім капіталам і прадпрыймальніцтвам.

Будуць паглынуты нашы прадпрыемствы й банкі, скуплена маёмасьць і нацыянальнае багацьце.

У выніку мы застанемся на сваёй зямлі, але яна ўжо ня будзе нам належыць, мы вымушаны будзем працаваць на чужых гаспадароў і чужую дзяржаву.

Канкурэнтнасьць нашых тавараў зьнізіцца, што ў выніку прывядзе да спыненьня вытворчасьці.

Мы страцім свае тэхналёгіі і інтэлектуальны патэнцыял, ператворымся ў грамадзтва хранічнай беднасьці, беспрацоўя, расейскай крымінальшчыны й непарадку, станем плацдармам для чужога войска й ядзерных ракетаў.

Мы зробімся дармовым калідорам для бязпошліннага траньзіту на Захад расейскіх газы, нафты й сыравіны. Скрытая эканамічная вайна Расеі супраць Беларусі, якая вялася апошнія два гады пры дапамозе й здрадніцтве ўрада Кебіча, ўжо прывяла да сумных вынікаў. Аднабаковая арыентацыя толькі на Ўсход ужо прынесла велізарныя страты Беларусі па клірынгаваму тавараабмену, а кошт расейскай нафты й сыравіны перавысіў сусьветны ўзровень. (Напрыклад, мы плоцім 128 даляраў ЗША за 1 тону расейскай нафты, тады як яна каштуе 91 даляр на Ратэрдамскай біржы).

Узьнікае пытаньне, чаму намэнклятурны ўрад і большасьць Вярхоўнага Савета Беларусі падтрымлівае нэакаляніяльную палітыку артадаксальных імпэрскіх колаў Расеі й дзейнічае супраць уласнай дзяржавы. Таму што намэнклятуршчыкі баяцца адказнасьці перад народам за карупцыю, «прыхватызацыю», разрабаваньне агульнанароднай маёмасьці й разбурэньне эканомікі нашай краіны. Каб пазьбегнуць адказнасьці, яны гатовы здаць дзяржаву. Калі ліквідуецца дзяржава, тады зьнікае суб'ект права, ад імя якога можна прад'явіць рахунак, абвінавачаньне, іск. Яны, накраўшыся й збанкрутаваўшы ў палітыцы, хочуць, застаўшыся пры сваіх капіталах, зьмяніць гэты суб'ект права на іншы, каб надзейна замесьці сьляды. Што можна цяпер прад'явіць тым кузьмічам, іванавічам ды сяргеявічам, якія кралі ва ўладзе за часы СССР? Няма больш СССР! Гэтак плянуюць і з Беларусьсю.

Але разбуральныя задумы ўрадавай намэнклятуры мусяць быць спынены. Мы не павінны дапусьціцца да таго, каб наш народ са зброяй вымушаны быў весьці нацыянальна-вызвалечную барацьбу за свабоду й незалежнасьць, як гэта робіцца ў іншых краінах. Гэта цяжкі й ня лепшы варыянт для беларускага грамадзтва, а яно ўжо зьмянілася, і ёсьць сілы, здольныя на барацьбу. Найбольш рэальным і законным дзеяньнем мы лічым масавую ўсебеларускую палітычную маніфэстацыю з патрабаваньнямі адстаўкі антынацыянальнага ўраду Кебіча, роспуску нелегітымнага Вярхоўнага Савета й правядзеньня дэмакратычных выбараў.

Нашаму народу няма цяпер на каго абаперціся, акрамя як на самога сябе. Мы з разуменьнем ставімся да заклікаў вольных прафсаюзаў і страйкавых камітэтаў аб усеагульнай палітычнай забастоўцы. Усе на барацьбу з імпэрскай камуністычнай рэакцыяй! За свабоду, незалежнасьць і дабрабыт Беларусі!

**З.ПАЗЬНЯК, В.ГОЛУБЕЎ, С.ПАПКОЎ, С.НАВУМЧЫК, Г.СЯМДЗЯНАВА, Ю.БЕЛЕНЬКІ, Л.БАРШЧЭЎСКІ, В.КАКОЎКА, А.ШУТ, П.ХОЛАД, А.БАРЫСЕНКА, М.КРЫЖАНОЎСКІ, В.АЛАМПІЕЎ, Л.ДЗЕЙКА, С.АНТОНЧЫК, Л.ЗДАНЕВІЧ, Б.ГЮНТАР, А.ПАРУЛЬ, І.ПЫРХ. М.АКСАМІТ, М.МАРКЕВІЧ, І.ГЕРМЯНЧУК, І.ГЕРАСЮК.**

## ПАСЬЛЯ БОЮ КУЛАКАМІ НЯ МАШУЦЬ

Чатыры дні страціў маразматычны парлямэнт на разборку гэтак званага летувіскага пытаньня. «Народныя дэпутаты» з ліку пракамуністычных фракцый і аб'яднаньняў не змаглі стрываць абразу ад Генэральнай пракуратуры, МУС і КДБ Рэспублікі Беларусь. Яны праглі помсты, - што ім да надзённых праблемаў народа, да поўнага развалу эканомікі. Галоўнае - зьвесьці рахункі.

Нехта з дэпутатаў заўважыў, што ў справе летувіскіх камуністаў бачыцца рука Масквы. Можа, яно й так. Але, калі ўважліва паглядзець на гэту справу, то можна заўважыць, што ў ёй ёсьць і другі бок. Пэўным колам у Вярхоўным Савеце стварылася спрыяльная магчымасьць разьлічыцца з непаслухмянымі генэраламі Ягоравым і Шыркоўскім. Сцэнар, распрацаваны ў нетрах Саўміну, спрацаваў выдатна. Разьюшаныя вэтэраны, падагрэтыя сваімі паплечнікамі з ПКБ, зрабілі сваю чорную справу. Інсьпіратары з Саўміну цяпер могуць паціраць рукі ад задавальненьня.

Што ж, можна таксама згадаць, - за памылкі й правапарушэньні трэба несьці адказнасьць. Але калі падумаць, то беларускія генэралы сталі ахвярамі уласнай недальнабачнасьці, паддаўшыся, як заўжды, на сумніцельны вусны загад генэральнага пракурора Рэспублікі Беларусь В.Шаладонава, якому такая самадзейнасьць даравана.

На гэтым можна было б і паставіць кропку, калі б у душу не закрадалася сумненьне, а ці толькі рука Масквы замешана ў гэтай справе? Калі прааналізаваць апошнія заявы афіцыйных асобаў, то разумееш, што ў Расеі багата чорных сілаў, якія мрояць адновай СССР. Ня менш такіх жа сілаў і з такімі ж думкамі й на Беларусі. Менавіта яны й зьнішчаць усё тое, што ім не падпарадкоўваецца.

**(спадар.)**

## ІНФАРМАЦЫЯ АБ СЭМІНАРЫ

Беларускі Рэспубліканскі Фонд Падтрымкі Дэмакратычных Рэформ імя Л.Сапегі, які прадстаўляе сабой Асацыяцыю дэпутатаў мясцовых Саветаў, навукоўцаў і бізнэсмэнаў, аб'яднаных для спрыяньня працэсу рэформы сыстэмы мясцовых ворганаў улады, рыхтуе правядзеньне сэмінара для Берасьцейскай і Гарадзенскай вабласьцей па актуальных праблемах рэформы сыстэмы Саветаў.

На сэмі[illegible]ы запрашаем дэпутатаў Саветаў усіх [illegible]ўняў, прадстаўнікоў грамадзка-палі[illegible], нацыянальна-культурных і асьветніцкіх арганізацый, журналістаў. З дакладамі выступяць экспэрты Фонду - навукоўцы Акадэміі Навук Рэспублікі Беларусь і вышэйшых навучальных установаў; дэпутаты, ўдзельнікі міжнародных заменжных канфэрэнцый падзеляцца ўражаньнямі аб вопыце рэформ у краінах Усходняй Эўропы. Будуць разгледжаны канкрэтныя прапановы, якія Фонд зьбіраецца рыхтаваць і накіроўваць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у якасьці заканадаўчай ініцыятывы.

Жадаючых прыняць удзел у сэмінары просім паведаміць па тэл.:
- **5-43-38 у Баранавічах (з 15.00 да 18.00);**
- **6-47-13 у Берасьці;**
- **2-20-60 у Пінску;**
- **44-67-66 у Горадні,** або па пошце:

**г.Менск, 220141 ПС N93**

**Старшыня Праўленьня Фонду, дэпутат Мінгарсавета Г.Г.КУНЕВІЧ**

**Дэпутат Берасьцейскага вабласнога Савета С.К.ГОЎША**

**Дэпутат Баранавіцкага гарсавета М.А.Северцаў**

**Старшыня Берасьцейскай філіі Фонду Г.М.ПРАНЕВІЧ**

**Старшыня Гарадзенскай філіі Фонду, дэпутат Гарсавета Т.Р.МАЛІНОЎСКАЯ**

## БНФ АКТЫВІЗУЕЦЦА

У суботу й нядзелю адбыліся сустрэчы дэпутатаў апазыцыі БНФ «Адраджэньне» З.ПАЗЬНЯКА, Г.СЯМДЗЯ-НАВАЙ, ГОЛУБЕВА з жыхарамі Карэлічаў, Наваградка, Іўя, Юрацішак.

У гэтых сустрэчах прымаў удзел старшыня Свабоднага прафсаюза Быкаў. Сходы хоць адбываліся ў самых вялікіх залах гэтых населеных пунктаў, але месца ўсім не хапала. Дэпутаты выказалі думку, што яны вымушаны рабіць такія паездкі, бо вельмі цяжка дабіцца выступаў у сродках масавай інфармацыі, якія манапалізаваныя Саўмінам. Афіцыйныя сродкі інфармацыі не адлюстроўваюць жыцьця на Беларусі. Быў прыведзены прыклад, што беларускае тэлебачаньне атрымала падзяку з-за мяжы за вельмі падрабязны паказ ходу візыту Клінтана ў Менску, а жыхары нашай краіны ўбачылі толькі некаторыя вытрымкі.

Была дадзена прысутным інфармацыя аб тым, што ўваход у рублёвую зону прывядзе да страты незалежнасьці Беларусі, што наша маёмасьць апынецца ў руках Расейскага капіталу, і мы на сваёй зямлі будзем жабракамі без маёмасьці з хранічным беспрацоўем.

Па заканчэньні сустрэчаў праводзіўся запіс у сябры БНФ. Вынікі такія: Іўе - 200 чалавек, Юрацішкі - 25 чалавек, Наваградак - створана яшчэ адна суполка колькасьцю 46 чалавек, Карэлічы - запісана 70 чалавек, створана раённая арганізацыя і рада, ў якую ўвайшлі сябры суполак амаль усіх сельсаветаў раёна.

**М.БАЎСЮК.**





# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## СТУДЗЕНЬСКІ СОЙМ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

### Інфармацыйнае паведамленьне

16 студзеня 1994г. адбылося чарговае паседжаньне Сойму БНФ.

З асноўным спавешчаньнем пра палітычнае становішча й передвыбарчую пэрспэктыву выступіў старшыня БНФ Зянон Пазьняк. Ён адзначыў, што імпэрская палітыка Расеі ў дачыненьні да Беларусі, якую можна вызначыць як эканамічную вайну, ўступіла ў вырашальную фазу. Сьведчаньне гэтаму - пагадненьне аб «аб'яднаньні грашовых сыстэмаў». Прапаганда ідэяў «аб'яднаньня» вядзецца дзеля таго, каб абяззброіць нашую дзяржаву, нашую эканоміку перад экспансіяй расейскага капіталу. Спыняюцца заводы, ідзе мэтанакіраваны развал нашай эканомікі. Адначасова прарасейскае лобі ў Вярхоўным Савеце спрабуе падмяць сілавыя структуры: падпарадкаваць ці проста зьліквідаваць КДБ, зьмяніць кіраўніцтва МУС. Фактычна рыхтуецца усталяваньне аўтарытарнага рэжыму й здача сувэрэнітэту.

У гэтых варунках асноўная задача Фронту - актывізаваць падрыхтоўку да выбараў, якія ў кожным разе маюць адбыцца праз год. Фронт павінен рэальна ацаніць стан грамадзтва, вызначыць стаўленьне да дэмакратычных прадстаўнікоў уладаў і да бізнэсу. Ня люмпэн збудуе новую Беларусь. Люмпэну, люмпэнскіх настрояў трэба пазбаўляцца і ў шэрагах Фронту.

У будучых выбарах Беларусь мае перавагу перад Расеяй - у нас ёсьць дэмакратычная апазыцыя, а там слабая дэмакратыя раствырылася ў намэнклятурнай уладзе. Мы павінны тлумачыць людзям, што адбываецца, і выкладаць праграму нашых будучых дзеяньняў.

Тэзу З.Пазьняка аб падрыхтоўцы да выбараў працягнуў і разьвіў палітолаг Уладзімір Роўда. Падчас выбарчай кампаніі будзе пазна займацца палітычнай адукацыяй. Таму праграма Фронту павінна быць канкрэтнай і зразумелай, і даносіць яе да выбаршчыкаў трэба ўжо цяпер, каб умацаваць кантакт з верагоднымі прыхільнікамі. У.Роўда выклаў асноўныя прынцыпы падрыхтоўкі да выбараў: стварэньне адпаведных структураў, акрэсьленьне рэсурсаў (людзі, час, сродкі), вывучэньне мясцовага электарату, праца з магчымымі кандыдатамі.

Сябра Сойму, сакратар Управы Віктар Івашкевіч прааналізаваў палітычныя арыентацыі ў сучасным беларускім грамадзтве. Лёзунг антыкамунізму, які выклікаў актыўную падтрымку ў 1989-1990гг., цяпер адышоў на задні плян. З ім можна было разбурыць старую сыстэму, але немагчыма стварыць новую. Людзі ўбачылі, што замест новай сыстэмы, якая б забясьпечыла ім свабоду й дабрабыт, фармуецца крымінальная сыстэма ўлады. Яны прагнуць парадку й стабільнасьці. У гэтых варунках фактычна ёсьць толькі дзьве прапановы: 1) вяртаньне да старой сыстэмы, што абяцаюць камуністы, і 2) стварэньне новай, незалежнай эўрапэйскай дзяржавы, што прапануе БНФ.

Зважаючы на гэта, мы павінны тлумачыць, што Фронт разглядае дэмакратыю як дыктатуру закону, ставіць мэтаю пабудаваць дзяржаву, у якой будзе парадак. Актывізуючы працу ў сувязі з падрыхтоўкай да выбараў, трэба зважаць, што людзі, якія лічаць сябе беларусамі, ўспрымальна ставяцца да нацыянальнай ідэі. Гэта нашыя верагодныя прыхільнікі, і менавіта на гэтую большасьць павінен арыентавацца Фронт, не баючыся пры гэтым страціць меншасьць.

У дыскусіі пасьля спавешчаньняў намесьнік старшыні БНФ Юры Хадыка ўзьняў праблему ўзаемадзеяньня розных палітычных сілаў. Яшчэ да пачатку выбарчай кампаніі мы мусім вызначыць пазыцыі ўсіх дэмакратычных партыяў у дачыненьні да БНФ. Аналіз паказвае, што ніякай «трэцяй сілы» на палітычнай мапе Беларусі няма. У стварэньні міфу пра «трэцюю сілу» найперш зацікаўленыя камуністы й прарасейскія колы. Гэта павінны разумець нашыя магчымыя саюзьнікі, ў тым ліку тыя, хто ўваходзіць у «Вясну-94». Не яны ўтварылі, як плянавалі, палітычны грунт для Шушкевіча, а Шушкевіч ды інш. ператвараюць іх у палітыканаў.

Магчымыя тры варыянты саюзу з партыямі. Першы - аптымальны - сьціслы саюз, г.зн. уваходжаньне партыяў у Фронт. Другі - «мяккі» саюз, але з улікам рэальнасьці, г.зн. без парытэту. Урэшце, калі амбіцыі лідэраў партыяў не дазволяць ажыцьцявіць першыя два варыянты, застаецца трэці - падтрымліваць супрацоўніцтва з прадстаўнікамі дэмакратычных партыяў на мясцовым узроўні.

Зянон Пазьняк, намесьнік старшыні БНФ Уладзімір Заблоцкі й Валянцін Голубеў падрабязна распавялі пра візыт Прэзыдэнта ЗША ў нашу краіну. На перамовах з Б.Клінтанам З.Пазьняк і Ў.Заблоцкі выклалі ацэнку БНФ сеньняшняга палітычнага стану ў Беларусі й закранулі наступныя тэмы: хто ўтрымлівае ўладу ў дзяржаве; як па праўдзе йдуць дэмакратычныя рэформы; як выкарыстоўваецца матэрыяльная дапамога; сутнасьць імпэрскай палітыкі Расеі ў дачыненьні да Беларусі.

Сказанае было сустрэта з разуменьнем, пра што сьведчыць намер амэрыканскага боку паставіць магчымасьць наданьня крэдытаў у залежнасьць ад рашэньня аб датэрміновых выбарах.

Вялікае значэньне мела сустрэча Б.Клінтана й З.Пазьняка ў Курапатах. Савет Міністраў і Прэзыдыум Вярхоўнага Савету зрабілі ўсё магчымае, каб сарваць прыезд Клінтана туды. Але амэрыканскі прэзыдэнт наведаў Курапаты, і візыт быў вельмі адухоўлены, настраёвы. На Сойме была адзначана шчырая праца падрыхтоўчай групы БНФ, якая забясьпечыла высокі ўзровень сустрэчы.

Справаздачу з працы Ўправы Сойму за другую палову 1993 году зрабілі яе сакратары. Віктар Івашкевіч зазначыў, што планова йдзе рэгістрацыя структураў БНФ. Масавыя акцыі цяпер не даюць вялікага эфэкту, таму Ўправа актыўна рыхтуе й ладзіць навуковыя ды навукова-практычныя канфэрэнцыі. За справаздачныя паўгады іх праведзена дзевяць. Вінцук Вячорка распавёў аб працы камісыяў Сойму, сярод якіх найбольш дзейныя камісыя па культуры й гісторыі, замежная камісыя, камітэт «Дзеці Чарнобыля» БНФ; наладжваецца праца камісыі да справаў моладзі. Палепшала лучнасьць з сродкамі масавай інфармацыі, за якую адказвае адзін з сакратароў Управы. Стала рэгулярным супрацоўніцтва Ўправы з нацыянальна-культурнымі меншасьцёвымі арганізацыямі. Узмацніліся сувязі з ТБМ і згуртаваньнем «Бацькаўшчына». У часе між Соймамі Ўправа інфармавала грамадзтва пра пазыцыю Фронту адносна важных палітычных падзеяў.

Сойм даручыў Управе да наступнага паседжаньня распрацаваць прапановы да стварэньня выбарчай камісіі. Сябры Сойму ўшанавалі памяць выбітнага гісторыка й грамадзкага дзеяча Генадзя Каханоўскага.

*Падрыхтавалі Вера ЧУЙКО й Вінцук ВЯЧОРКА*

## ПРЫНЯЎШЫ БЮДЖЭТ, БЕЗ ДЭФІЦЫТУ, ЗРАБІЎШЫ ПЕРАСТАНОЎКІ - НЕ ПАКРЫЎДЗІЛІ ДЭПУТАТА

Звыш дваццаці пытаньняў разгледзела шаснаццатая сэсія Гарадзенскага вабласнога Савета. У сувязі з дасягненьнем пэнсіённага ўзросту вызвалены з пасады старшыня камітэта па прамысловасьці, транспарту, сувязі, гандлю й бытавым абслугоўваньні насельніцтва П.Сіманаў, якога замяніў А.Пашкевіч, старшыня Ленінскага райсавета г.Горадні.

Вызвалены ад займаемай пасады 61-гадовы намесьнік старшыні выканкама па пытаньнях рыначных адносін і эканомікі Л.Кардаш, які будзе ўзначальваць рэспубліканскую структуру па антыманапольнай палітыцы пры аблвыканкаме.

М.Логвін абраны першым намесьнікам старшыні аблвыканкама. Ён працаваў намесьнікам стршыні выканаўчага камітэта.

Таксама намесьнікам па эканоміцы й рыначных адносінах стаў С.Усараў - начальнік галоўнага ўпраўленьня дэпартамэнта эканамічнага кантроля па Гарадзенскай вобласьці пры Саўміне РБ.

Са складу Савета выканаўчага камітэта выведзены Ю.Чыжоў, а абраны начальнік фінансавага ўпраўленьня аблвыканкама М.Шабан.

Упраўленьне гандлю й грамадзскага харчаваньня ператворана ў аддзел у сувязі з нарастаючай прыватызацыяй аб'ектаў.

Скасаваўшы камітэты па эканоміцы й рыначных адносінах, сацыяльным разьвіцьці, прамысловасьці, транспарту, сувязі, гандлю й бытавым абслугоўваньні насельніцтва, будаўніцтву, камунальнай гаспадарцы й архітэктуры, сэсія прыняла рашэньне аб стварэньні аддзелаў: сацыяльна-гуманітарнага; прамысловасьці, транспарту й сьферы паслуг; тэрытарыяльнага разьвіцьця, ўпраўленьня па эканоміцы й рыначных адносінах аблвыканкама.

Скасаваны пасады кансультанта па справах вэтэранаў, інвалідаў пры старшыні вабласнога Савета й пасады адказнага сакратара аддзяленьня дружбы й культурных сувязяў з замежнымі краінамі.

Бяз слова «народнай» засталося ўпраўленьне адукацыі, перапарадкаваны аблвыканкаму аддзел арганізацыйна-савецкай і кадравай палітыкі.

Дырэктар Дзятлаўскага сыраробчага завода С.Жульпо ўзначаліў камісыю Савета па пытаньнях разьвіцьця прамысловасьці, транспарту й сувязі, замяніўшы С.Домаша, які раней абраны старшынёй вабласнога Савета.

Справаздачу выканаўчага камітэта аб рабоце ў 1993 годзе было прынята рашэньне не зачытваць у сувязі з тым, што яна была надрукавана ў «Гарадзенскай праўдзе», і старшыня аблсавета С.Домаш выступіў з дакладам «Аб асноўных напрамках плана эканамічнага й сацыяльнага разьвіцьця вобласьці на 1994 год». У час выступленьня прыйшлося пачуць меркаваньне двух дэпутатаў, маўляў, правільна, што, новы малады старшыня робіць перастаноўкі ў апараце выканкама, вымушае пэрспэктыўных работнікаў, робіць рэарганізацыю аджыўшых сябе структураў.

С.Домаш тым часам паведаміў, што кадравыя прапановы рыхтуюцца й на наступныя сэсіі. Выканкаму вабласнога Савета, пры цяперашнім штаце працуючых у 684 чалавекі, прапанавана да 1 сакавіка 1994 года скараціць прыкладна 82-х работнікаў.

Заслухаўшы й абмеркаваўшы план работы Савета, бюджэт вобласьці на 1994 год (упершыню за апошнія тры гады ён зацьверджаны без дыфіцыту), а таксама зацьвердзіўшы справаздачу аб выкананьні бюджэту за 1992 год, сэсія перайшла да наступнага пытаньня, прадставіўшы слова пракурору вобласьці Л.Цярэшчанка.

Дванаццаты пункт парадку дня называўся так: «Аб адмене рашэньня Сьвіслацкага раённага Савета народных дэпутатаў N144 ад 27.10.93г. аб паўторным адначаленьні ў дачы згоды на пазбаўленьне дэпутацкай недатыкальнасьці дэпутата Сьвіслацкага райсавета Ц.Трацьцяка.

Забягаючы ўперад, скажу - падтрымкі ў большасьці дэпутатаў прадстаўленьня не атрымала. Закранутае пытаньне вызвала даўнія спрэчкі.

Галоўны страж законнасьці доўга раскладваў па паліцах злоўжываньні службовым становішчам і крадзяжы ў вялікіх памерах, якія зьдзейснены Трацьцяком . Выступаючыя гаварылі аб трыццацідвухгадо-вым стажы работы абвінавачва-емага дэпутата, добра паложанай шашы яго падначаленымі, не аправерглі ўшы ні воднага абвінавачваньня пракурора, ўсе яны заклікалі сваіх калегаў не даваць згоды на прыцягненьне Трацьцяка да крымінальнай адказнасьці.

На сэсіі былі таксама агалошаны статыстычныя дадзеныя. У параўнаньні са студзенем мінулага года, спад вытворчасьці - па вобласьці на студзень бягучага года - склаў звыш 50 працэнтаў, а па Горадні - усяго 70 працэнтаў; калі ўвод жыльля складаў у 1991 годзе 240 тыс. квадратных мэтраў, то ў мінулым - 67,4 тысячы. Прагноз бягучага года - удвая менш.

Крытыкавалася пастанова саўміна 1991 года аб дазволе прадпрыемствам устанаўліваць самім зарплату, калі кіруючыя работнікі сталі атрымліваць звыш мільёна рублёў у месяц, пры сярэдняй зарплаце да мінулы год 167 тысяч. Прапанавана аблвыканкаму выйсьці са зваротам да ўраду аб дзяржаўным рэгуляваньні зарплаты.

Стварыўшы пазабюджэтны фонд для фінансаваньня расходаў на ўтрыманьне ведамаснага жыльлёвага фонду (прадпрыемствы незалежна ад форм уласнасьці будуць адлічваць адзін працэнт ад сабекошту) і зацьвердзіўшы дапаўненьні «Аб устанаўленьні збору з грамадзян Рэспублікі Беларусь і замежных грамадзян, якія перасякаюць дзяржаўную мяжу», сэсія падыйшла да разгляду «Рознае.»

Вось цытата з прамовы галоўнага ўрача вабласной клінічнай бальніцы Уладзіміра Ражко: «Пры такім падыходзе да мэдыцыны, гаворачы простым языком, ідзе працэс выміраньня. За 1993 год нарадзілася менш, чым памерла. Апошніх было на 1433 чалавекі больш.»

**І.ПАЛУБОК.**





# ГРАМАДЗТВА

## ЦІ ПЕШШУ, ЦІ НА ВЕЛАСІПЕДЗЕ. БОЛЬШ НІЯК.

Рэдактару газэты «Пагоня»

Два месяцы праляжаў гэты матэрыял у «Гродзенскай праўдзе». Хаця «рэдакцыя можа зьмяшчаць матэрыялы ў парадку абмеркаваньня, не падзяляючы пункт гледжаньня аўтара», а заснавальнікам зьяўляецца гарадзкі Савет, мне як дэпутату гарсавета ў друкаваньні гэтага артыкула неаднаразова адмаўлялі.

Прашу на старонках вашага выданьня надрукаваць гэты артыкул. Няхай сам чытач будзе суддзёй, ці можна аб гэтым маўчаць.

І.ПАЛУБОК, народны дэпутат.

ЦІ ПЕШШУ, ЦІ НА ВЕЛАСІПЕДЗЕ. БОЛЬШ НІЯК.

«Стала цяжка дабірацца да работы, езьдзіць у магазін альбо ў госьці,» - усё часьцей і часьцей можна пачуць у самых розных месцах.

Аўтару гэтых радкоў таксама кожны дзень прыходзіцца карыстацца грамадзкім транспартам, які перавозіць жыхароў мікраёна Прынёманскі й пасёлка Паўднёвы. І магу асабіста засьведчыць - сытуацыя проста катастрафічная.

Возьмем выхадны дзень. Нядзеля. На гадзіньніку 13.40. Канчатковы прыпынак - «вуліца Славінскага». Пяць аўтобусаў 22-га маршруту (у народзе іх называюць «гармошка») выцягнуліся па шашы амаль да магазіна «Вішнявец». Стаяць.

Роўна ў 14 гадзін усе пяць караванам накіроўваюцца на рэчавы рынак. У грэці сядаю й я - адзін. Па шашы сустракаем групамі людзей, якія ідуць з рэчавага рынку... Апошніх наведвальнікаў рынка забіраюць пяць «Ікарусаў» і зноў «цугам» - назад.

Назаўтра намесьнік дырэктара па перавозках В.Чыжык быў катэгарычны: «Неабходна чым хутчэй устанаўліваць кропку адзнакі. А ўсіх пецярох вадзіцеляў будзем наказваць за тое, што не вытрымліваюць інтэрвал руху.»

Распараджэньнямі гарвыканкама з 13 кастрычніка адкрыты 22 гарадзкі маршрут, на якім у будня дні працуе тры «Ікарусы-260», а ў выхадныя - шэсьць «Ікарусаў-280» («гармошка») з інтэрвалам адпаведна 5 і 10 хвілін.

З прыпынку «палац Хімікаў» дадаткова адкрыты таксама маршрут N31 з аплатай па талонах. Ёсьць таксама экспрэсмаршруты з выхадам адразу па два аўтобусы з аўтавакзалу, чыгуначнага вакзалу, Фартоў, Дзевятоўкі, Фолюша, з аплатай за праезд 500 рублеў. Узьнікае ўражаньне, што на рынак накіравалі даволі многа грамадзкага транспарту. Чаму ж людзі ходзяць пешшу?

Сядзім і размаўляем з Віктарам Лявоньцьевічам Чыжыкам, як палепшыць перавозкі людзей, як пераадолець цяжкасьці, з якімі сутыкнуліся работнікі аўтапарку N1.

- Калі два гады таму гарадзкія маршруты абслугоўвалі 111 адзінак транспарту, то цяпер засталося 96. Затое абслугоўваем маршруты з большай адлегласьцю. Многім аўтобусам неабходны рамонт, які нельга зрабіць у майстэрнях аўтапарку. Засталася нявыкананай дамоўленасьць аб закупцы ў Польшчы 20 аўтобусаў, якія аўтапарк павінен быў атрымаць праз асацыяцыю «Нёман». Дык няма чым заплаціць - у гарадзкім бюджэце «дзірка». Грамадзкі транспарт «сядзіць» на датацыях гарвыканкама, Гарадзенскага райвыканкама. Ад гэтых датацый за кастрычнік, напрыклад, аўтапарк мае стратаў у 77 мільёнаў рублёў. Іншы раз няма чым заплаціць нават за паліва.

З гэтымі пытаньнямі я адправіўся да старшага інжынера па транспарту й сувязі гарвыканкама Б.М.Надточага.

Планавы выхад у часы «пік» - 128 тралейбусаў, на самой справе выходзяць 138-140, а мікраён Прынёманскі абслугоўвае 48-50 адзінак. Больш нельга з-за малой магутнасьці электрападстанцыі тралейбусных ліній. Ад продажу праязных і талонаў да 30 працэнтаў ідзе адлічэньняў у мясцовы бюджэт, што атрымліваецца каля 60 мільёнаў у месяц. Калі пасажырскія перавозкі павялічыліся, то колькасьць купленых праязных зьнізілася. Кантралюючым службам (іх у аўтобусным парку 10, а ў тралейбусным - 20 чалавек) зусім ня проста спагнаць штраф. Плаціць штраф толькі «сумленныя» пасажыры. На астатніх добрае ўзьдзеяньне аказвае кантроль толькі тады, калі ён выконваецца сумесна з работнікамі праваахоўных ворганаў. Выдзяліць неабходную колькасьць міліцыянтаў немагчыма, паколькі ў міліцыі й так хапае працы. Усе пытаньні ўпіраюцца ў адно: дзе ўзяць грошы?

Бясспрэчна, пытаньне ня простае. Але гэта ня значыць, што ад яго з месяца ў месяц трэба адмахвацца. Ужо зараз сытуацыя крытычная. Дзякуючы таму, што ніхто не прыкладае актыўных намаганьняў па выпраўленьню становішча, можа здарыцца так, што хутка ўсім нам прыйдзецца хадзіць пешшу. Няўжо так і будзем, склаўшы рукі, чакаць гэтага часу?

P.S.: Калі матэрыял быў падрыхтаваны да друку, ў старшыні гарсавету Г.Крупенкі адбылася сустрэча зацікаўленых службаў. Прынята рашэньне ўтварыць гасразьліковы аддзел пры выканкаме, тым самым палепшыць перавозкі людзей грамадзкім транспартам. Тым ня менш, трохі пазьней, на шаснаццатай сэсіі вабласнога Савета народных дэпутатаў Г.Крупенка паведаміў, што хутка будуць праведзены зьмяненьні графіка перавозак. Вядома, ня ў лепшы бок. Дзякуй Богу, гэта пакуль ня будзе тычыцца гадзінаў «пік».

## УВАХОД ДЛЯ ЎСІХ, АЛЕ КАЛІ НЯ МАЕШ МІЛЬЁНАЎ - ВЯСЕЛЬЛЯ НЕ ГАРАНТУЕЦЦА. МОЖА БЫЦЬ СУМНА

Напэўна, певень, нарэшце, клюнуў..., альбо разьмяркоўваць ужо няма чаго й адкуль. Сацыялістычныя ўмовы гаспадараньня болей не вытрымліваюць. Відаць, пасапраўднаму, чыноўнікам няма грошай нават самім на зарплату, калі пачынаецца прыватызацыя для ўсіх жадаючых.

25 лютага ў Горадні ў памяшканьні Лялечнага тэатру адбудзецца першы аукцыён па продажу камунальнай маёмасьці горада. Прапануюцца 12 гарадзкіх аб'ектаў, у іх ліку адна кацельня, тры крамы, чатыры будынкі, чатыры кватэры. Дарэчы, аб'екты ў асноўным знаходзяцца ў цэнтры горада, толькі кватэры ў новых мікраёнах. Пачатковы кошт крамаў, да прыкладу, ад 51 млн. рублёў да 95, будынкаў - ад 49 мільёнаў да 74, трохпакаёвыя кватэры каштуюць ад 37 да 40 млн. У дачыненьні да некаторых аб'ектаў ёсьць і абавязковая ўмова аукцыёна. Да прыкладу, для крамы па вуліцы Дзяржынскага, 30, пачатковы кошт якой складае 95 млн., патрабуецца: захаваньне прызначэньня аб'екта на 5 гадоў, рэканструкцыя толькі па ўзгадненьню з дзяржаўнай інспэкцыяй па ахове гістарычных помнікаў. Кампэнсацыя затратаў на рэканструкцыю ў памеры 766,6 млн. рублёў. Праўда, такія ўмовы не для ўсіх аб'ектаў. Для будынка кацельнай іх увогуле няма, а што датычыць будынка самай старой у горадзе лазьні па вуліцы Маставой, то той, хто яе набудзе, можа перарабіць пад што-небудзь іншае, скажам, адчыніць фірму - «Рога и копыта». Толькі вось рэканструкцыю мусіць будзе праводзіць з узгадненьнем інспэкцыі па ахове гістарычных помнікаў. Відаць, лазьняў у нашым горадзе й так дастаткова.

Што датычыць грошай, то яшчэ патрэбна будзе ўнесьці кошт залога на кожны аб'ект абавязкова. Скажам, за тую ж краму па вуліцы Дзяржынскага - 9,5 млн.рублёў, а за трохпакаёвую кватэру - ад 3,7 да 4 млн.

Апроч гэтага, шчасьлівы пакупнік па ўмовах аукцыёна за затраты на падрыхтоўку аб'екта да прыватызацыі, арганізацыю й правядзеньне аукцыёна павінен выкласьці 4 працэнты ад пачатковага кошту аб'екта й 5 працэнтаў розьніцы паміж прадажнай і пачатковай цаной. Сымвалічная толькі плата за ўваход - 5000 рублёў.

Што датычыць таго, адкуль узяліся пачатковыя кошты, нам патлумачылі, што існуе жорсткая эканамічная мэтодыка, па якой налічваецца цана. Удзельнічаць у аукцыёне маюць права ўсе фізычныя й юрыдычныя асобы, як грамадзяне Беларусі, так і грамадзяне замежных краін. Праўда, кватэры змогуць набыць толькі жыхары Горадні.

Пачатак прыватызацыі, відаць, закладзены, толькі невядома, як пойдуць справы. Бо гэта праца вымагае шмат сілаў, ведаў і часу. На падрыхтоўку аднаго аб'екта для прыватызацыі затрачваецца некалькі тыдняў.

Дзіўна, як гэта нашы суседзі ў Друскеніках за два гады, вызваліўшыся ад Саветаў, ужо забыліся, што ў іх горадзе былі дзяржаўныя крамы.

**М.МІКАЛАЙЧЫК.**

**P.S.:** Заяўкі на аукцыён прымаюцца на адрас: 230023, г.Горадня, пл.Леніна,2, пакой N 57. Тэлефоны для даведак: 45-29-81, 47-29-56.

## КАЛІ НАС ЗАВАЮЮЦЬ

Днямі за гасьцінным сталом слухаў разважаньні нашых беларусаў. Інжынер вабласнога ваенкамату скардзілася на лёс і на рахманасьць беларусаў: маўляў, такія гэтыя беларусы бясьпечныя, што ня бачаць пагроз з боку варожых дзяржаў. Вось толькі-толькі беларусы разарвуць сувязі з Расеяй, адразу ж іх нехта заваюе. Як жа пад акупантамі тады жыць беднаму народу.

У такт інжынеру з ваенкамату падпявала й выкладчыца Гарадзенскага пэдвучылішча, якая, ствараючы ў прысутных вобраз умоўнага ворага, чамусьці ня раз узгадвала сквапных амэрыканцаў, якім нічога складанага не было заваяваць бедны Кувэйт і выгнаць адтуль небараку Хусэйна.

Мяне ня зьдзівіла тое, што астатнія, слухаючы разважаньні кабетаў, пагаджаліся з імі. Бянтэжыла вось што - рэй за сталом вялі жанчыны, адна з якіх мае дачыненьне да міністэрства абароны, а другая - пэдагог.

Але ж я згадаў сваім апанэнтам, што вельмі добра, калі нас, нарэшце, акупуюць з Захаду. Можа й мы пад такімі «акупантамі» зажывем па-людзку.

**А.МАРКАЎ.**

## ШТО ПРА НАС ПІШУЦЬ, ШТО ПРА НАС БАЮЦЬ

Днямі летувіская «Малая газэта» зьмясьціла інтэрв'ю сябра Рады народнага фронту доктара мэдыцынскіх навук Пятра Марзенка.

Шаноўны доктар згадаў, што ўрад Беларусі, які з паклонам едзе да Масквы за кожнай тонай нафты й выдае свае «посьпехі» як вялікую заваёву, толькі сароміць беларускі народ. Беларусі ня гонар прасіць жабрацкіх падачак з панскага стала, яна заслугоўвае лепшай долі, лепшага ўраду й лепшага парлямэнту, - лічыць Марзенак.

А вось Даўгаўпілскае радыё паведамляе, што на рынку працы Беларусі па падліках спэцыялістаў 290 тысячаў беспрацоўных. Менавіта яны зьвернуцца ў наступным годзе за дапамогай на працаўладкаваньне ў Рэспубліканскі цэнтр занятасьці. Агульны лік працоўнай сілы на рынку будзе хістацца ў памерах да 700 тысяч. У той жа час праграма па працаўладкаваньню прадугледжвае судзейнічаць у працаўладкаваньні толькі 120 тысячам ахвочых.

Па паведамленьнях агэнтства «РИА», Беларусі чакаць дабра ад уваходжаньня ў рублёвую зону няма сэнсу. Рэспубліка ня толькі страціць частку свайго сувэрэнітэту, а й значную частку маёмасьці. У той жа час тое самае агэнцтва перадало інтэрв'ю прафэсара эканомікі МДУ, у якім расейскі навуковец згадаў, што Расея ў выпадку з Беларусьсю прасьледуе найперш гэапалітычныя, а не эканамічныя мэты. Са слоў прафэсара вынікае, што Расеі спрадвек больш да густу валодаць тэрыторыямі-каленіямі, чым ствараць дабрабыт уласнаму народу.

Згодна паведамленьням агэнцтва «Франс-прэсс», аб'ём тавараабмену паміж Беларусьсю й Францыяй за 1993 год узрос на 3,5 раза й дасягнуў 350 мільёнаў франкаў.

Далей «Франс-прэсс» паведамляе, што Францыя займала ў 1992 годзе толькі 20-ю пазыцыю ў агульным аб'ёме імпарта Беларусі. Летась яна стала сёмай сярод Эўрапэйскіх гандлёвых партнёраў Беларусі.

У бягучым годзе французы жадаюць сягнуць у гандлі з нашай дзяржавай на вядучыя пазыцыі.

**(з.д.)**

## СУМЕЖЖА

# ВЕСТКІ З ЛЕТУВЫ

### ЗАМЕЖНЫЯ ІНВЭСТЫЦЫІ

Больш усяго сумесных прадпрыемстваў на Летуве - 883 - заснавана з дапамогай расейскага капіталу. Сьледам ідуць інвэстары Польшчы - 532, Нямеччыны - 494, ЗША - 196, Туркмэністану - 180, Беларусі - 144.

З пункту гледжаньня спэцы-ялістаў, першынство інвэстыраваньня належыць Вялікабрытаніі, якая ўклала ў эканоміку Летувы 210.481.240 літаў ці 35,2 працэнта ад усіх замежных інвестыцый. На другім месцы Нямеччына - 14,6 працэнта, Расея - 9,2, ЗША - 7,6. Самая апошняя тут Беларусь - усяго 0,3 працэнта капіталаўкладу. Сумы, ўкладзеныя краінамі ЭЭС у эканоміку Летувы, складаюць 56,5 працэнта ўсіх замежных інвэстыцый. Дзяржаў СНД - 9,9 працэнта, дзяржаў Балтыі - 3,7!

### ЖЫГУЛІ Ў ПАВАЗЕ

У Летуве наноў узьняліся кошты на легкавікі «Жыгулі». Так, на самым буйным аўтамабільным торжышчы ў Коўне «Жыгулі» выпуску 1989 года каштуюць болей 1500 даляраў ЗША. Выпушчаныя ж 5-6 год назад волжскія малалітражкі па коштах здольныя канкураваць з васьмігадовай «Вольва». Як заўважылі аўтааматары гэтай краіны, папулярнасьць «Жыгулеў» можна патлумачыць магчымасьцямі набываць да іх запчасткі. Ды й рухавікі расейскіх легкавушак разьлічаны на звычайны, ня вельмі чысты бэнзін, чаго нельга сказаць аб іншамарках.

### СПАДЧЫНА «САВЕЦКАЙ АРМІІ»

Днямі ўлады Коўны вырашылі перадаць застаўшыйся ў спадчыну гораду комплекс вайсковых кашараў пад мясцовы цэнтр сацыяльнай падтрымкі.

Праз пэўны час тут будзе працаваць дабрачынная сталоўка, інтэрнат для сіротаў, начлежка для бяздомных, крама для маламаёмасных. Сталыя людзі будуць мець тут свой клюб, а інваліды - майстэрні для працы.

### ЗАРПЛАТА ПЫЛАСОСАМІ

Кіраўніцтва Віленскага дзяржаўнага электрамэханічнага заводу «Венга» вырашыла выдаваць заробак гатовай прадукцыяй свайго прадпрыемства - пыласосамі. У дзень выдачы заробку праз прахадную завода рабочыя нясуць па аднаму, а то й два пыласосы.

Генэральны дырэктар «Венгі» І.М.Маклак тлумачыць захады адміністрацыі так: у касе заводу няма наяўнасьці, бо вырабы завадчан ідуць у тыя краіны, валюта якіх неканвэртуемая.

Выйсьце - шукаць плацежаздольных партнёраў, а таксама стварэньне на дзяржпрадпрыемстве камэрцыйных структураў.

### ПАДРОБЛЕНЫЯ ЛІТЫ

Напрыканцы сьнежня ў Летуве выяўлена 1099 манет і купюр падробленых літаў. Самая папулярная манета ў падробшчыкаў - 5 літаў. Іх выяўлена 275 штук. Сярод падробленых банкнот наміналы вартасьцю 20 і 50 літаў. Па колькасьці падробленых грошай на Летуве першынства у Вільня, Коўна, Мэмэль.

Падрыхтаваў Г.АСТРОЎСКІ.

# ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

Першыя кошты за ўдзел Польшчы ў праграме «Партнёрства дзеля міру» абыйдзецца Міністэрству абароны ў палову більёна злотых. Само ўладкаваньне польскай місіі пры штаб-кватэры НАТА ў Брусэлі абыйдзецца ў 60-80 млрд. злотых. А ўдзел у навучаньні склаў бы 420 млрд. злотых.

На чатыры працэнты ўзрос у мінулым годзе нацыянальны даход у Польшчы. Аднак за сярэднюю зарплату можна было купіць меней, чым пазалетась. Рэальная зарплата панізілася на 1.8 працэнта, а попыт значна ўзрос. Занятасьць у гаспадарцы засталася на тым самым узроўні, а паказчык беспрацоўя падняўся да 15.7 працэнта.

У апошнім квартале мінулага года назіраўся высокі рост цэн на мяса - на 5,6 працэнта штомесяц. Гэта самае высокае падвышэньне коштаў за два апошнія гады. Рыба падаражала на 70 працэнтаў, мяса - на палову, яйкі - на 40 працэнтаў, а масла - аж на 80 працэнтаў.

У мінулым годзе павялічылася значэньне прыватнага сэктару - да 10 працэнтаў узрасла лічба фірмаў, якія належаць фізычным асобам, да 14 працэнтаў - сумесных прадпрыемстваў унутры краіны й аж да 48 працэнтаў вырасла колькасьць сумесных прадпрыемстваў з замежным капіталам. Даходы й выдаткі з бюджэту павялічыліся, а дэфіцыт паменшаў і склаў 44 більёна злотых.

Прэзыдыум Сэйму пастанавіў, што сучасны Сэйм прыме ад сваіх папярэднікаў тры прапановы аб прыцягненьні да адказу перад дзяржаўным трыбуналам:

- аўтараў ваеннага становішча;
- генэрала Войцеха Ярузэльскага й генэрала Чэслава Кішчака за зьнішчэньне стэнаграмаў з паседжаньнямі палітбюро ПАРП у 1982-1989 гг;
- Х.Бальцэровіча, Я.Бялецкага, Я.Левандоўскага, Х.Бохняж, В.Кучынскага й Т.Сарыйчыка, каторыя былі членамі ўраду й нанесьлі дзяржаўнай казьне значныя страты.

57 працэнтаў апытаных палякаў на пытаньне, ці павінны паказваць эротыку па тэлебачаньні, выказалася ў падтрымку (але толькі вечарам), 25 працэнтаў - паказваць, як і ўсе іншыя праграмы, 10 працэнтаў - не паказваць, 8 працэнтаў за тое, каб вырэзваць самыя вострыя моманты. 58 працэнтаў анкэтаваных лічаць, што тэлебачаньне паказвае «столькі, колькі гэтага трэба» ваенных сцэн, людзей, якія гінуць, забойстваў. «Забойства - гэта «добрая эмацыянальная разгрузка, « - сцьвярджаюць прыхільнікі такіх сцэн.

**По матэрыялах польскага друку.**

# ВЯЛІКІ СУСЕД ГАНДЛЮЕ НЫРКАМІ, І НЯ ТОЛЬКІ

Ныркі, вывезеныя з трупярняў Аргэнтыны, вочы, выдаленыя ў псіхічна хворых, зьнікаючыя бясьследна гандураскія дзеці - усё гэта, як лічаць аўтары ангельска-канадскага дакумэнтальнага фільма «Бізнэс на чалавечых органах», сьведкі квітненьня чорнага рынку матэрыялаў для трансплантацыі.

Сцэнарысты фільма Джудзі Джэксан і Брус Харыс заклікаюць Усясьветную арганізацыю аховы здароўя спыніць гандаль чалавечымі органамі. Для нашага ўсходняга суседа - Расеі - гэты бізнэс даўно стаў крыніцай цьвердай валюты,- піша агенцтва Рэйтар. Камэрцыйныя дакумэнты, атрыманыя стваральнікамі фільма, сьведчаць аб тым, што адна расейская фірма прадала 700 нырак, сэрцаў і легкіх, 1400 пячонак, 18 тысячаў залоз, 2000 вачэй і мноства іншых органаў.

«Ператварэньне людзей у тавар гандлю - супрацьгуманна, - заявіў Харыс. - На нашых вачах узьнікае новае дзяленьне людзей на заможных і бедных, у якім моцныя сьвету могуць сёньня купляць жыцьцё. Выразаць нырку з чалавечага арганізму досыць проста. Затым яе неабходна зьмясьціць у кансэрвуючую вадкасьць, затым у спэцыяльную скрынку і можна везьці гэты груз як звычайную ручную паклажу».

Дасягненьні мэдыцыны дазваляць падтрымліваць жыцьцё багатых хворых неабмежаваны час, што падвышае попыт на матэрыялы для трансплантацыі. Ахвяры дарожных выпадкаў з пашкоджаньнямі галавы зьяўляюцца галоўнымі донарамі неабходных трансплантантаў. Дзякуючы пасам перасьцярогі, абмежаваньня руху й хуткасьці на дарогах сьвету значна панізіўся ўзровень траўматызму на дарогах, што давяло да ўзьнікненьня дэфіцыту органаў. Амэрыканскія шпіталі фактычна вядуць бойку між сабой за кожны трансплантант.

У Маскве нейкая фірма ўзялася паставіць да Нямеччыны, Італіі, Ізраілю 600 нырак па кошту 20 тысячаў даляраў за адзін экзэмпляр. Камэрсанты з Вялікабрытаніі, Італіі й Турцыі ствараюць з расейскімі партнёрамі сумесныя прадпрыемствы па перасадцы органаў заможным хворым. У Маскве апэрацыя на ныркі каштавала б кожнаму з іх 80 тысячаў даляраў.

З Маскоўскіх трупярняў, перапоўненых бязроднымі й нікім непатрабуемымі целамі памерлых, чые астанкі сваякі адмаўляюцца пахаваць за свой кошт, да заходніх дасьледчых інстытутаў і цэнтраў надыходзіць у вялікіх аб'ёмах косны мозг і шкелеты.

Джэксан і Харыс абвінавачваюць аднаго маскоўскага хірурга ў узбагачэньні на гандлі чалавечымі органамі й выкарыстаньні для прыкрыцьця сваёй незаконнай дзейнасьці аўтарытэту некамэрцыйнай эўрапэйскай арганізацыі «Эўротранплат». Гэта арганізацыя займаецца разьмеркаваньнем органаў для трансплантацыі, яна скасавала пагадненьне з хірургам два гады назад, калі даведалася, што ён падпісаў камэрцыйныя пагадненьні на гандаль трансплантантамі з шэрагам замежных фірмаў.

P.S.: Намесьнік дырэктара інстытута трансплантальогіі і штучных органаў Анзор Хубуція на гэтае пытаньне адказаў карэспандэнту «Известий» так: «У Расеі прыняты закон, забараняючы гандаль органамі чалавека. Пасьля фільма на расейскім тэлебачаньні экспэрты Міністэрства бясьпекі і ўнутраных спраў праводзілі цэлы шэраг сьледчых мэрапрыемстваў і нічога крымінальнага не знайшлі ні ў нашым інстытуце, ні ў іншых лячэбных установах.

Магчыма, дзе-небудзь існуюць падпольныя лябараторыі, - згадвае Хубуція. - Але каб ануляваць такія важкія органы, як сэрца, пячонка, ныркі, для гэтага неабходны ўмовы, дасканалае абсталяваньне, найвысокая стэрыльнасьць, цудатворцы-спэцыялісты, якіх у Расеі можна пералічыць на пальцах».

На думку Хубуція, складальнікі дакумэнтальнага кіно адносяцца да разраду паляўнічых за сэнсацыямі.

(з.д.)

### ЗАСАДЫ НА БЕЛАРУСКА-ЛЕТУВІСКІМ ПАМЕЖЖЫ

Каб хоць як зьмяніць колькасьць правозу кантрабандных грузаў праз патаемныя сьцежкі на беларуска-летувіскім памежжы, гарадзенскі памежны атрад распачаў стала рабіць засады на гэтых «караванных» шляхах.

«Нам надакучыла чуць, як летувіскія крымінальнікі вязуць праз мяжу ўсё што хочуць. Асабліва крыўдна тады, калі даведваемся пра скрадзеную «суседзямі» ў нашых вёсках сялянскую жывёлу», — расказаў у прыватнай гутарцы адзін са старэйшых афіцэраў атраду.

Г.У.

**Рэдакцыі стала вядома,** што вядзецца падрыхтоўка па стварэньню культурнага Летувіскага таварыства ў Горадні. Ужо створана ініцыятыўная група па правядзеньню арганізацыйнай канфэрэнцыі.

Шаноўныя летувісы! «Пагоня» нагадвае вам, што мы маем добрыя стасункі з усімі культурнымі цэнтрамі нацыянальных меншасьцяў, якія існуюць у нас у Горадні. Спадзяёмся, што чытачы змогуць даведацца пра вас з нашых публікацый.

(ав).

# ГІСТОРЫЯ Й СУЧАСНАСЦЬ

## «Я Й ЦАРСКІЯ ЧАСЫ ПАМЯТАЮ»

У вёсцы Вялікія Карнышы, што на Наваградчыне, жыве Марыя Юльянаўна Касьцюк. Яна - доўгажыхар. Нарадзілася ў 1896 годзе. Дагэтуль сама робіць усю хатнюю працу, ходзіць у краму па хлеб. Памятае даўно мінулыя часы. Нядаўна давялося паразмаўляць з ёй. Напэўна, сама гутарка шмат каго зацікавіць.

**- Марыя Юльянаўна, Вы шмат пражылі, і за рознымі ўладамі. Калі найлепш было жыць? Можа, пры Польшчы?**

- Што там Польшча. Я яшчэ мікалаеўскія часы памятаю. Сама лепш было жыць пры Мікалаі. Пойдзеш у краму й на рубель шмат тавару купіш. Ды тавар які - аж пераліваецца. На дзесяць капеек столькі цукерак купіш, што за дзень не зьясі. А цяпер і за тысячу рублёў таго не набудзеш.

**- Але ж і пры Польшчы, здаецца, ня дрэнна жылі?**

- Добра жылі. Лепш, чым пры Саветах, і нашмат лепш, чым цяпер.

**- Мне часта даводзіцца размаўляць са сталымі людзьмі, дык яны казалі, што за польскім часам было ня вельмі салодка, бо пан аратым за дзень плаціў 80 грошаў, а жняям 60.**

- Бо пан пану розьніца. У нас быў пан, дык жняям плаціў у дзень злоты, а хто гараў панскую зямлю - два злотых. Пры Польшчы самы бедны гаспадар меў каня й 3-4 гэктары зямлі, а гаспадар сярэдняга дастатку трымаў двое-трое коней і меў 10-15 гэктараў зямлі. Кепска жылі толькі гультаі ды пьяніцы.

**- Якія тады былі цэны?**

Пуд збожжа каштаваў два злотых. З пуда выходзіла хлеба на тыдзень на сям'ю. Карова на базары каштавала 100 злотых. Сукенка - ад 10 да 30 злотых. На пяць грошай можна было купіць паўфунта ледзянцоў. Вялікія цэны былі на газу, на вырабы з мэталу, ровары, тэхніку. Ровар каштаваў некалькі сотняў злотых. А самы дарагі быў кошт на зямлю.

**- Дзе яшчэ людзі бралі грошы на пражыцьцё, акрамя працы ў пана?**

- Кожны рабіў розныя рэчы, што ўмеў. Адзін ляпіў і прадаваў гліняныя сьвістулькі, міскі, жбаны; другі рабіў цэбры, бочкі, куфры; трэці майстраваў печы, чацьвёрты займаўся пчалярствам. Кожны шукаў якоесь рамяство для сябе, каб яно давала прыбытак. З гэтага й жылі.

Зямлі было мала, а сем'і вялікія: па пяць, сем і больш дзяцей. Гэта кепска было, бо зямельныя надзелы ўвесь час дзяліліся й памяншаліся. Таму шмат маладых людзей было вымушана ісьці працаваць на заводы ці ехаць на заробкі ў Амэрыку.

**- Ці вярталіся назад з амэрыканскіх заробкаў?**

- Вельмі мала. Большасьць заставалася там і пісалі ў лістах, што ім у Амэрыцы лепш, чым тут. А хто прыязджаў з далярамі, куплялі зямлю, хату й рабіліся заможнымі гаспадарамі. Тут, на Беларусі, іх называлі ў народзе падпанкамі.

**- Адукацыя тады, напэўна, была платная?**

- Першыя чатыры клясы былі бясплатнымі. А далей за вучобу трэба было плаціць. І немалыя грошы. Нават здольныя дзеці ня мелі магчымасьці вучыцца далей. Бо бацька грошы на вучобу даваць не хацеў, лепш скарыстоўваў іх для набыцьця якой рэчы ці зямлі.

**- А якія прадметы вывучалі ў пачатковых клясах?**

- Чытаньне, пісьмо, арыфметыку, катэхізы, сьпевы й маляваньне. Вучылі ўсё на польскай мове, бо тутэйшая мова лічылася брыдкаю, хамскаю.

**- Значыць, беларускую мову забаранялі?**

- Не, чаму ж. Гавары сабе. Але з малых гадоў у школе вучылі дзяцей, што «ты естэсь поляк малы, а твой ойцец - ожэл бялы», а тут - польскія крэсы. І гаварыць па-тутэйшаму, значыць,- быць бязкультурным.

**- Марыя Юльянаўна, а Вы што пры Польшчы рабілі?**

- Я ў Бярозаўцы служыла: была дзесяць год у рэстаране афіцыянткай. Вой, як добра тады жылося! Харч тры разы на дзень бясплатны. Я без бутэлькі піва абедаць ніколі не сядала. І гаспадар за працу плаціў злоты ў дзень. А чаявыя! Зойдзе Болесь ці Янусь кавы выпіць і злоты на стол кладзе за тое, што я яго абслужыла. За дзесяць год я сабрала тысячу злотых. А колькі вопраткі мела!

**- Вось Вы пражылі доўгае жыцьцё. Як думаеце, да чаго ўсё ідзе, што далей будзе?**

- Усё да гібелі йдзе. Людзі сталі бандытамі, злодзеямі, забіваюць адзін аднаго, рабуюць. Падурнелі ўсе. Канец сьвету будзе. Бо ў пісаньні сказана: «І страцяць людзі свой розум, і сын нападзе на бацьку, а брат на брата, і будзе тады пагібель усяму жывому».

Размову запісаў
АНДРЭЙ ПЯТКЕВІЧ.

ДА 70-ГОДДЗЯ ЎТВАРЭНЬНЯ

## ГУРТОК БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ

Вядома, ў законе, прынятым польскім Сэймам у 1924 годзе, было сказана, што там, дзе пражывае 25 працэнтаў беларусаў ці дзе 40 працэнтаў па жаданьню бацькоў вучаць сваіх дзяцей на беларускай мове, павінны быць адкрыты беларускія школы. У гэтым жа годзе пачынаецца масавае ўзьнікненьне побач з Беларускай сялянска-рабочай грамадой і таварыства беларускай школы. Гурток беларускай школы ёсьць і ў Скідалі, 70-годдзе якога мы адзначаем сёньня. Хто ж зьяўляўся стваральнікам гуртка? Мясцовы жыхар Пятро Якаўлевіч Сяўрук, які жыў разам з бацькамі па вуліцы 17 верасьня, ў мінулым Палявая. Стрыжнем работы, якую праводзіў гурток у Скідалі й навакольных вёсках, была бібліятэка, ў якой былі сабраны кнігі беларускіх і расейскіх пісьменьнікаў, каштоўныя выданьні замежных клясыкаў, лепшыя творы прадстаўнікоў польскай літаратуры.

Да гэтага часу ў дзевяностагадовага жыхара вёскі Бандары Ёсіпа Андрэевіча Таранкі зьберагліся кніга, на якой ёсьць пячатка гуртка. Гэта кніга на расейскай мове носіць назву «За много лет», выданьня 1872 года, ў якой надрукаваны апавяданьні, гісторыя, палеміка, судовыя прамовы і іншае. Кніжка знаходзіцца ў добрым стане.

Лёс бібліятэкі быў трагічны пасьля сьмерці Пятра Сяўрука ў 1929 годзе й чарговага наскоку паліцэйскіх. Фонд яе вывезьлі й надзейна схавалі на Галавацкім хутары ў Пятра Пятровіча Бурца. Там яна была многім недасягальная, паколькі дабрацца да яе многім было ня так проста. Адсутнасьць бібліятэкі ў Скідалі ня зьнізіла актыўнасьці гуртка. Сябры гуртка сярод насельніцтва арганізоўвалі выступленьні мастацкай самадзейнасьці, ў якой прымалі самы актыўны ўдзел. На Новы 1928 год у хаце Максіма Лапыша члены гуртка ўстанавілі хвойку для дзяцей беднаты, частавалі іх ласункамі.

Дзе ж бралі грошы сябры гуртка на правядзеньне культурных мэрапрыемстваў і набыцьцё ў бібліятэку кніг? Для гэтага выкарыстоўваліся ўсе магчымасьці таго забароненага часу. У сьвяточныя дні сябры гуртка выходзілі на вуліцы горада й вёсак, прымацоўвалі сустрэчным і непадазроным людзям бел-чырвоныя стужачкі да грудзей, а ўзамен атрымлівалі грашовыя сродкі. Давалі хто колькі мог. Праўда, за такія ўчынкі калі-нікалі некаторым прыходзілася трымаць адказнасьць перад паліцыяй.

З 24 членаў гуртка, што на здымку, вядомы імёны 20.

Сярод іх у цэнтры (з чубам) у першым радзе Пятро Сяўрук. Самымі актыўнымі членамі гуртка былі: А.К.Мазалеўскі, М.Ф.Шань, П.П.Бурац, В.А.Сяўрук, І.Р.Дзеляноўскі.

Вялікая заслуга Скідальскага гуртка ў тым, што ў часы забароны яны сьмела несьлі ў народныя масы нацыянальную культуру, родную мову. Памяць аб гуртку назаўсёды застанецца ў сэрцах народа.

І.БАРЫСАЎ.

## НЕПЭРСПЭКТЫЎНЫЯ ЮРАВІЧЫ

Веска Юравічы ўваходзіць у склад СКП «Абухава», ў мінулым калгаса «Шлях да камунізма» Абухаўскага сельскага Савета. Юравічы знаходзяцца ад цэнтра СКП каля дзесяці кілямэтраў. Тут калісьці, як гавораць, бурліла жыцьцё, жылі людзі розных узростаў. А цяпер? Засталіся адны старыя. Чаму ж гэта вёска прыйшла да ўпадку? Калі дэталёва зрабіць выснову, атрымліваецца наступнае. Да пачатку 50-х гадоў у вёсцы Юравічы было больш за 30 асабістых гаспадарак, кожная з якіх мела свой надзел зямлі. Людзі працавалі на сваёй зямельцы. Але прыйшоў час, і з асабістымі гаспадаркамі трэба было пакончыць, паколькі з імі пабудаваць сацыялізм, а затым увайсьці ў камунізм было нельга. Пачалася калектывізацыя, якой падпарадкавацца павінны былі ўсе сяляне, а хто супраціўляўся, дык задушвалі падаткамі, пасьля чаго людзі падымалі рукі. А хто й далей не хацеў падымаць рукі, супраціўляўся, дык іх усіх чакалі цялячыя вагоны, якія вывозілі непаслухмяных да Сібіры. Пры ўступленьні ў калгас абагулілі ўсё: і каня, і гумно, і сельгасінвэнтар. А што атрымлівалі калгасьнікі за сваю працу ў калектыўнай гаспадарцы? «Палачкі», за якія атрымлівалі грамы зерня й капейкі. Выратоўвалі сялян толькі прысядзібныя гароды. Але й на іх ня ўсё можна было вырошчваць што хацелася селяніну. Паперкі зьверху спускаліся ў калгасы, саўгасы: што можна селяніну з жывёліны ў сваім двары мець, нават колькасьць птушкі рэгламэнтавалася.

Хто ж вінаваты, што вёска Юравічы стала непэрспэктыўнай? Былыя старшыні калгаса ці цяперашні І.П.Сянько? Нічога падобнага, вінаватая наша сыстэма. Бязмозглыя чыноўнікі з раённага цэнтру спускалі адпаведныя паперкі Сельскім Саветам і старшыням калгасаў, якія вёскі аднесьці да пэрспэктыўных, а якія - да непэрспэктыўных. Такой аказалася й вёска Юравічы. У непэрспэктыўных вёсках забаранялася будаваць ня толькі хаты, але й маленькія хлявушкі. За самавольства людзі штрафаваліся.

- Цяпер хаты вёскі й яе жыхароў, - гаворыць Ф.П.Юроўскі, - можна пералічыць на пальцах. Засталося ўсяго 9 хат, у якіх жывуць 13 жанчын і 4 мужчыны, усе пэнсіянэры. Вёска наша закінута, вуліцы ў балоце, па іх не прайсьці, калі пройдзе дождж.

Але жыцьцё ў вёсцы Юравічы хоць і старэнькае, але працягваецца. І бачна, што ў гэты цяжкі час людзі вёскі не страцілі дабрыні да тых, хто іх наведвае. Яны шчыра вядуць гамонку аб сваім жыцьці, а яно ня з лёгкіх.

І.БАРЫСАЎ.



На фотаздымку: сям'я Юроўскіх.

# ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

В.ПАНУЦЕВІЧ

## ГАРАДЗЕНШЧЫНА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ РУХУ Ў 1918-1919 ГАДАХ

**(Пачатак у NN 4,5).**

### 3. ГОРАДНЯ - ЦЭНТРАМ УВАГІ

З пераездам у Горадню беларускага актыву БНР у канцы сьнежня 1918г. Горадня ажывілася і сталася цэнтрам увагі ня толькі суседзяў, але і заходніх дзяржаваў, што засядалі ў Парыжы на Мірнай Канфэрэнцыі.

Тут была сядзіба ўраду БНР, Беларускага Міністра пры жамойцкай дзяржаве, тут дзеілі Беларуская Гарадзенская Управа, якая ў лютым месяцы 1919 была пашыраная на Віленшчыну, Лідчыну, Аўгустоўшчыну - г.зн. на ўсе беларускія землі, што ўваходзілі ў склад жамойцкай дзяржавы - ды стала называцца Гарадзенскай Краёвай Беларускай Управай, тут многа было грамадзкіх арганізатараў, як Цэнтральная Рада Горадзеншчыны, Настаўніцкі Зьвяз, Зьвяз Чыгуначнікаў, Хрысьціянская Грамада, Камітэты паштавікоў, дарожных работнікаў, Аддзел Уцекачоў, Духоўны Зьвяз, Беларускі Тэатар, Беларускі Хор, Саюз Каапэрацыі, Сялянскі Зьвяз, Арганізацыя Моладзі і інш.

У Горадні выходзілі наступныя газэты: «Бацькаўшчына» - тыднёвік, выдаваны Беларускім Культурна-Прасьветным Таварыствам. «Бацькаўшчына» была сацыялістычнага кірунку, тэкст друкаваўся па-беларуску, па-расейску, па-жыдоўску і па-жамойцку. «Беларускі Народ», выдаваўся ў сераду і нядзелю, па-беларуску і па-расейску. «Беларусь», выдавалася 2 разы ў тыдзень, орган Цэнтральнай Рады Горадзеншчыны, «Родны Край», выдаваўся Беларускай Радай Горадзеншчыны, па-беларуску. «Зорка», тыднёвік, выдаваўся Горадзенскім Беларускім Камітэтам. Усе гэтыя газэты балі спыненыя летам 1919 года, калі Палякі акупавалі Горадзеншчыну. Пазьней, у 1930-31г.г. Беларускі Нацыянальны Камітэт у Горадні выдаваў беларускі тыднёвік «Беларускае Слова».

Але найважнейшай хіба падзеяй было ўтварэньне беларускага войска. Як ужо гаварылі раней, пачаткі беларускіх збройных сілаў зробленыя былі ў Вільні ген.Кандратовічам і ягонымі супрацоўнікамі. Там былі ўтвораныя ёдры двух пяхотных палкоў: 1-га і 2-га. З гэтымі пачаткамі, перавезенымі ў Горадню, працягвалася далейшая праца.

25 студзеня 1919 года была абвешчана ў Горадзеншчыне агульная мабілізацыя. Загад аб мабілізацыі быў выданы Міністэрствам Абароны і Гарадзенскай Ваеннай Радай у беларускай, жамойцкай, расейскай і польскай мовах. мабілізацыя была выклікана ня толькі патрэбай абароны перад бальшавікамі, якія стаялі на лініі нямецкай акупацыі, але дзеля абароны перад польскай агрэсіяй ды перад шматлікімі бандамі польскіх легіянэраў, якія ў сваім пераходзе з Вільні на захад спыняліся ў вёсках і мястэчках Горадзеншчыны і Віленшчыны, тэрарызавалі і рабавалі насельніцтва.

Супраць мабілізацыі паднялася лютая кампанія з боку апалячанага каталіцкага духавенства, маёнтка-уладальнікаў і іншых прапольскіх элемэнтаў. На аддаленых мясцох ад Горадні валацужныя легіянэры праводзілі акты тэрору сярод валасных сяброў нацыянальных камітэтаў, арыштоўвалі прадстаўнікоў ад вайсковага кіраўніцтва ў Горадні. Тым ня менш мабілізацыя дала некаторы кантынгент жаўнераў, зь якіх быў укамплектаваны 1 Беларускі полк пяхоты, асобны батальён (350 чал.) Горадзенскай Камандатуры й Беларускі гусарскі эскадрон.

Камандантам Горадні быў прызначаны падпалкоўнік Мікалай Дзямідаў. Ён адыграў актыўную ролю ў вэрбоўцы войска, асабіста наведаўшы наборныя пункты ў Ваўкавыску, Беластоку, Слоніме, Пружанах, Кобрыне, Берасьці, Радуні, Лідзе, Саколцы, Васілішках, Шчучыне, Друзгеніках і іншых мясцовасьцях.

### 4. ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ ПОЛК

Першы Беларускі Полк пяхоты ў Горадні пад камандай палк.Лаўрэнціева налічваў 800 чал. ахвіцэраў, падахвіцэраў і жаўнераў. Складаўся ён із штабу палку, на чале якога стаяў палк.Шчэрба-Равіч (начальнікам вышкаленьня быў палк. Усьпенскі, гаспадарчай часткі - палк.Юшкевіч) і чатырох батальёнаў. Камандзірам 1 батальёну быў ппалк. Гайдукевіч, пераняўшы пасьля (у часе польскай акупацыі) камандаваньне палком. Камандзірам II бат. быў палк. Міхайлоўскі, III батальёну - палк. Кузьмін-Караваеў, VI батальёну - палк. Волкаў.

З ахвіцэрскага ядра 2 палку быў створаны асобны батальён з 350 чалавек, падначалены каманданту Горадні М.Дзямідаву. Пры батальёне была каманда гранатчыкаў пад кам. пар. Бандарука і конны эскадрон пад каманд. ротм. Глінскага. Была і вайсковая аркестра.

І-шы полк стаяў у кашарах пры Аляксандраўскім пляцы над Гарадніčанкай недалёка Горадзенскага тэатру, асобны батальён стаяў у будынках пры Жандармскім завулку недалёка Паштовай вуліцы, конны эскадрон - у Архірэйскім доме, частка ў стайнях С.Якавюка.

Лучнікам ад жамойцкага Міністэрства абароны быў у Горадні ппалк.Гедройць і яго памочнік ппалк. Казлоў. У Коўні існавала беларускае вайсковае бюро, якое займалася тварэньнем асобнай баёвай групы. Зь яе вырас пазьней беларускі батальён, які быў спачатку пад камандваньнем Сьцяпана Сіцька, а пазьней А.Ружанцова.

Харчаваньне, уніфармаваньне й узбраеньне беларускага войска праводзілася шляхам закупаў у паразуменьні зь нямецкай Камандатурай у Горадні. Грошы паходзілі з датацыі жамойцкага ўраду, дзяржаўных пазыкаў ураду БНР у Украін-скай Народнай Рэспублiцы ды з адміністрацыйных падаткаў.

Вось як апісвае народны ўздым у Горадзеншчыне пар. Казячы, ўдзельнік беларускага руху, які ўцёк летам 1919 года ў Коўню:

«Асабліва пасьпяхова наладзілася адбудоўчая дзейнасьць пасьля таго, як у Горадню пераехала Беларускае Міністэрства зь Міністрам Беларускіх Справаў І.Я.Варонкам на чале. Ва ўсіх радзілася надзея на лепшую будучыню, ўпэўненасьць у собскія сілы. Зьявіліся газэты на роднай мове, сталі адчыняцца школы, бальніцы, каапэратывы... Цэлымі грамадамі пацягнуліся ў Горадню, ў свае Міністэрства, беларускія дэпутацыі і дэлегацыі, шукаючыя ў свайм Урадзе пункты апекі і падтрымкі ў бедах і абароны ад насільля польскіх паноў, уздымаючых галовы ўсе вышай і вышай у меру прасоўваньня на нашыя землі польскіх войск.» Нажаль, так прыгожыя па-чаткі адраджэньня Горадзеншчыны, паралiжаваліся штораз мацней і мацней польскай агрэсіяй.

### 5. ПОЛЬСКАЯ АГРЭСІЯ

Польская агрэсія пачалася яшчэ ў лістападзе 1918 года захопам Сувальшчыны, Аўгустова, Бельшчыны і часткі Беласточчыны. Польскі ўрад дэкрэтам з 28 лістапада 1918 года далучыў да Польшчы Аўгустоўскі павет, які ўваходзіў у Горадзеншчыну, а таксама ўсю Сувальшчыну. Іншым дэкрэтам з таго дня вызначаліся «выбары» ў «польскае згромадзэне народовэ» ў паветах Бельскім і Беластоцкім. На гэтыя акты польскай агрэсіі востра пратэставала Рада БНР у свaей ноце, перасланай 15 сьнежня 1918 міністру замежных справаў Польскай рэспубліцы зь Вільні.

**(Працяг будзе).**

## УРАДЖЭНЦЫ ГАРАДЗЕНШЧЫНЫ - АХВЯРЫ РЭПРЭСІЙ

**(Пачатак у N5).**

**Качко Іван Трафімавіч.** Нарадзіўся ў 1910г., в.Качкі Гарадзенскай губэрніі, беларус, член ВКП(б), адукацыя нізшая, ўчастковы інспэктар 9-га аддзяленьня міліцыі г.Масквы. Жыў у Маскве, Сіўцаў Вражэк, 6-4. Арыштаваны 6.06.37г. Прыгавораны камісыяй НКУС і Пракуратурай СССР 28.08.37г. за ўдзел у контррэвалюцыйнай і тэрарыстычнай арганізацыі да расстрэлу. Расстраляны 28.08.37г. Азначэньнем ВКВС ад 9.06.56г. рэабілітаваны.

**Кубілюс Яўген Вікеньцьевіч.** Нарадзіўся 15.01.1893г. в.Сувалкі, паляк, член ВКП(б), адукацыя незакончаная вышэйшая, намесьнік загадчыка прамысловымі прадпрыемствамі «Союзфото». Жыў у Маскве, Армянскі завулак, 13-9. Арыштаваны 28.07.37г. Прыгавораны ВКВС 1.11.37г. за ўдзел у шпіёнскай дывэрсыйна-тэрарыстычнай арганізацыі. Расстраляны 1.11.37г. Азначэньнем ВКВС ад 8.12.56г. рэабілітаваны.

**Фэйгін Уладзімір Рыгоравіч.** Нарадзіўся ў 1901 годзе ў Беластоку, габрэй, член ВКП(б), адукацыя вышэйшая, кіраўнік с/г групы Савецкага кантроля пры СНК СССР. Жыў у Маскве, Дом урада, кв.17. Арыштаваны 27.06.37г. Прыгавораны ВКВС 29.10.37г. за ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай дзейнасьці да расстрэлу. Расстраляны 30.10.37г. Азначэньнем ВКВС ад 23.11.55г. рэабілітаваны.

**Харын Саламон Міхайлавіч.** Нарадзіўся 28.04.1897 года ў Горадні, габрэй, член ВКП(б), адукацыя вышэйшая, эканаміст Упраўленьня Дзяржбанка СССР. Жыў у Маскве, вул.Дурава, 36-а -5. Арыштаваны 28.03.36г. Прыгавораны ВКВС 4.11.36г. за ўдзел у контррэвалюцыйнай дзейнасьці да расстрэлу. Расстраляны 4.11.36г. Азначэньнем ВКВС ад 23.05.56г. рэабілітаваны.

**Шацкін Лазар Абрамавіч.** Нарадзіўся ў 1902 годзе ў Сувалках, габрэй, б/п, адукацыя сярэдняя, намесьнік старшыні Сярэднеазіяцкага Дзяржплана й дырэктар Інстытута эканамічных дасьледваньняў. Жыў у Маскве, Друкарскі завулак, 18-7. Арыштаваны 10.02.35г. Прыгавораны ВКВС 10.01.37г. за ўдзел у контррэвалюцыйнай і тэрарыстычнай арганізацыі да расстрэлу. Расстраляны 10.01.37г. Азначэньнем ВКВС ад 15.03.63г. рэабілітаваны.

**Шыдлоўскі Іван Антонавіч (ён самы Шыдлоўскі Ян Антонавіч).** Нарадзіўся ў 1897г., в.Бяляны Гарадзенскай губэрніі, паляк, б/п, адукацыя пачатковая, рабочы 2-га завода «Амо». Жыў у Маскве, Берсеньяўскі завулак, 5-21. Арыштаваны 14.01.36г. Прыгавораны ВКВС 7.10.36г. за ўдзел у контррэвалюцыйнай дзейнасьці да расстрэлу. Расстраляны 8.10.36г.

**Эстэрман Ісаак Сяменавіч.** Нарадзіўся ў 1890 годзе ў Слоніме Гарадзенскай губэрніі, габрэй, член ВКП(б) да 1928 года, адукацыя сярэдняя, безпрацоўны. Жыў у Маскве, вул.Камінтэрна, 10/2 - 14. Арыштаваны 25.05.36г. Прыгавораны ВКВС 3.10.36г. за ўдзел у контррэвалюцыйнай дзейнасьці да расстрэлу. Расстраляны 4.10.36г. Азначэньнем ВКВС ад 25.03.58г. рэабілітаваны.

